Цана асобнага № 30 кап.

# Вольная Беларусь

Тыдневік палітычны і літэратурны.

**Умовы падпіскі:**
На год...... 12р. —
Напоугода.... 7р. —
На 1 мес.... 1р. 50к.

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:** г. Мінск Захараускaя, 18. Тэл. 776.

Перамена адрэсу 50 к.

**Год выдання II.**



Ніхай жыве Нізалежная Беларусь!



№ 27. 1918 г. 4-го жніуня 1918 г. № 27.



**Сталося так, што чаргowы нумар «Вольнае Беларусі» спазьніуся на два тыдні. Дзеля здавальнення падпісчыкау за гэты час, заміж прапушчаных нумароу будзе раздавацца новая кніжка Якуба Коласа—«Сымон Музыка», ч. I, II і III. Цана кніжкі у прадажы 1 р. 50 кап.**

**Рэдакцыя.**

## Нашы месты.

*(Гістарычныя нарысы водлуг кнігі Семенава „Россія»).*

**Менск.**

(Глядз. № 25).

1505 г. Менск быу страшна паталочан татарамі, каторыя занесьлі сюды і маравую заразу. Ні прамінула яшчэ гэтая пошэсьць, як пачалася вайна з Маскоушчынай. У 1508 г. маскоуцы аблажылі Менск і на працягу вайны страшэнна пустошылі ваколіцы места. Каб дапамагчы Менску, кароль Зыгмунд-Аугуст у 1552 г. пашырыу ранейшыя прывілеі горада, дазволіу рабіць кірмашы, падаравау Менску млын на рэчцы Случы, прыместовыя землі і лясы на тры мілі увакол горада, але усе гэтыя заходы мала дасягалі свае мэты. Гэтаму перашкаджалі, з аднаго боку, зацяжныя доугія войны з Маскоушчынай, а з другога боку — паустаушае унутраное безладздзе, выкліканае жаданнем Польшчы пашырыць рэлігійную вунію і на Менскае ваеводзтво. 9 го кастрычніка 1596-го г. пастановы (ухвалы) Берасьцейскаго сабору былі абвешчаны у Менску у цэркві сьв. Мікалая біскупам Гэрмагэнам. Усе станы Менскаго ваеводзтва стрэлі гэтую вунію з гневам і нарэканнем, і, калі с часам архімандрыт Менскаго Увазьнесенскаго манастыра, Паісій Сахоускі, пачау пашыраць вунію у Менску, дык шляхта і усе жыхары Менскаго ваеводзтва сабраліся у 1611-м г. у Менску і напісалі акт, што яны з даунейшых часоу у асобі сваіх продкау мелі веру, хрэст, духоуных настaунікау і усе царкоуныя наказы ад константынопольскаго патрыярха і што у вольнасьці і правох свае веры яны былі запэунены ад сваіх князеу і каралеу літоуска-польскіх, дзеля чаго ні хочуць прымаць вуніі, а жадаюць і надалей заставацца у паслушэнстві константынопольскаму патрыярху. Гэты акт быу надпісаны 52 асобамі з найбольш шляхэтнаго і уплывоваго роду. Ні гледзючы на гэта, вунія стала шпарка пашырацца на Беларусі і, разумеецца, у Менску, дзе, канец канцом, застауся адзін толькі праваслауны Петрапаулаускі мужчынскі манастыр (цяпер Катарын. сабор). Пашырэнню вуніі спрыяло, з аднаго боку, тое, што да 1720-го года вуніятам дазвалялося вызнаваць свой праваслауны сымбол веры, а, з другога боку, польскі урад абяцау вуніяцкім біскупам права засядаць у сэнаці нарауне с каталіцкімі біскупамі, міранам-жэ—займаць урадавыя пасады у Польшчы і Літве—Беларусі. Усе гэта моцна вабіло вуніятау, і шмат хто сярод іх пачау пераходзіць у каталіцтво; а пачуушы далей сілу, вуніяты сталі прыціскаць праваслауных, адбіраючы ад іх цэркві і манастыры. Гэтак у Менску перш за усе адабралі праваслауны Сьв.-Духаускі манастыр, потым Вазьнесенскі манастыр быу далучан з усімі належачымі да яго землямі да Віленскаго Троіцкаго вуніяцкаго манастыра, а пры Сьв.-Духаускім манастыры была заложана вуніяцкая сэмінарыя, і усе духавенство было аддано пад загад Сьв.-Духаускаго вуніяцкаго манастыра.

У пачатку XVII-го веку на Беларусі зьявіліся езуіты і за іх дапамогаю пачалося будаванне каталіцкіх касьцелау. У Менск першы раз прышлі езуіты у 1657 г. і на працягу часу с 1600—1770 г. г. у адным толькі Менску было пабудовано 11 манастыроу з вучылішчамі і езуіцкімі коллегіямі; усе гэта моцна дапамагало пашырэнню вуніі. Калі у 1619 г. Менскі ваевода Петра Тышкевіч з Іларывонам Барановічам, намесьнік вуніяцкаго мітрапаліта Іосафата Руцкаго, намагаліся адабраць саборную цэркау у Менску і перашкодзіць пабудаванню Петрапаулаускаго манастыра, каб тым зусім зьнішчыць праваслауных, дык проціу іх паусталі многія асобы—кн. Януш Тышкевіч, Тодар Стэткевіч, кн. Александра Агінскі, Георг Скумін-Тышкевіч і шмат іншых. Дзеля змагання с каталіцтвам і вуніей закладаліся праваслауныя брацтвы; у Менску іх налічывалось сем: саборнае гошпітальнае пры замковай цэркві Рожэства Багародзіцы, Васкрэсенскае, Крыжаноснае, сьв. Міхала, сьв. Мікалая, сьв. Яна Ксьціцеля і сьв. Ганны. Пры брацтвах меліся школы, багадзельні і друкарні; у апошніх друкаваліся творы проціу вуніі. Праваслауная шляхта разам з другімі станамі пад кірауніцтвам братчыкау рабілі вялікія ахвяры і будавалі праваслауныя цэркві і манастыры, аддаючы іх пад загад Кіева-Пячорскай лауры ці Віленскаму Сьв.-Духаускаму брацтву, бо у Менску праваслаунае епархіі с 1632-го г. ні істнавало.

Пад час вайны маскоускаго цара Алексея Міхалавіча с Польшчай за Украіну, Менск быу забран 1654-го г. маскоуцамі і доуга заставауся пад маскоускаю обладай, пeратрываушы другі раз маравую язву. У канцы XVII-го веку, на моцы пастановы соймавай констытуцыі, у Менск перанес свае пасядзэнні Галоуны Літоускі трыбунал (вышэйшая судовая інстанцыя), каторы зьбірауся у Менску кожныя два годы на працягу двадцаці нядзель. Такім парадкам Менск пастаулен быу нарауне з Вільняю і Навагрудкам і адтрымау значэнне рэзыдэнцыі вышэйшай інстанцыі края. Гэта значна падняло добрабыт горада, але ні на доуга. У пачатку XVIII-го веку зноу пачауся упадак места. Ен колькі раз пeражывау аблогу то з боку маскалеу, то з боку швэдау і кожны раз плаціу пeраможцам вялікія контрыбуцыі; апрач таго, Галоуны Трыбунал крыху пазьней быу пераведзен да Гродны.

Пры маскоскай царыцы Катарыні II Менск і уся Беларусь былі прылучаны да Маскоушчыны. Пры далучэнні Менска і Менск. губ. да Масквы, жыхаром места Менска абвешчан быу маскоускім ген.-аншэфам Крэчэтнікавым маніфэст, на моцы катораго жыхары Менска аслабняліся ад платы акладных даходау па 1-е студня 1795-го г. дзеля свае беднасьці.

пытанне аб цукровай прамысловасьці у нас развязываецца. Трэба толькі ураду Беларускаму даць тыя ці іншыя палёгкі землеробам, каторыя будуць садзіць цукровыя буракі, дык хутка посьля вайны могуць пачаць будавацца цукраварні.

Хімік **А. Більдзюкевіч**.

г. Радашковічы. 3-І-1918 г.



* * *

Гэй, разлятайцеся, хмары кудлатыя,
Сонцо зазьяне ніхай!
Золатам ясным праменні багатыя
Усьцелюць задуманы гай!
Усюды пачнецца, як казка чароуная,
Жыцьце і радасьць зямлі,
Песьня казулькау—жучочкау безмоуная,
Што пазасынуушы былі.
Усе ажыве, заіграе, закруціцца
У працы вясёлай сваей;
Што абамлело і тое ачуціцца,
Кінуушы мертвы спакой.
Люд, як мурашкі, раем заклапоціцца,
Працай вакол загрыміць;
Ланцуг разарваны пад ногі пакоціцца,
Больш каб яго ні шчаміць.
Уціску бывалаго ценжар запомніцца,
Воля сьлязу абмахне;
Панскую ніуку пакіне наемніца
Й жыць гаспадыней пачне.
Досыць ахвярау на мэты ні родныя,
Годзі пакорай хварэць!
Гэй, падымайцеся людзі свабодныя,
Час ужо долю нам мець!
Хіба-ж трывогі вялікай ні чуеце—
Грому радзімых званоу?!
Хіба вы родных зусім ні шануеце
Весак... лясоу... курганоу?!.

**Крауцоу Макар.**

# Мацi.

Пачувала, што падыйшоу-тыкі яе страшны час.

І дужа было сорамна, што усе будуць ведаць, што з дзяучынаю так трапілося. А дагэтуль так-сяк хавалася: аборамі укручывала сябе, у лазьню ні хадзіла, скакала, шыбка бегала, важкое паднімала.

Хатнія свае можа быць і ведалі. Нічога ні казалі, а як слова дамекаліся, ці зналі.

А усе спадзевалася, што ніхто нічога ні прыкмеціу.

На яго-ж і забылася саусім. Толькі іншы раз, калі пад грудзьмі новае стварэнне стукало, успамінала тую пару.

Было пасьля сьвятак калядных, калі што дня на вечарушкі гуляць зьбіраліся. Па праудзі, дык ні натта і весела там. Ні якай добрай гульні. Хлопцы у карты гуляюць, а дзеукі стаяць ці сідзяць. Хаця-ж бы сьпелі якое-што.

Хлопцы дурныя: гуляць, гаманіць спакойна, скамарохау наняць, танок вадзіць—дык ні хочуць. Во, каб ім толькі дурное паказаць, вырабіцца. А як збаламуціу, то і адхінууся, слова ні скажыць, з-за картау ні выходзе.

Лічылі яе за ціхоньку. І ў тэй раз, як усягды, болей за другіх маучала і ціха сядзела. Як пачалі расхадзіцца, хлопцы за свае: схопюць і валочуць па кутках. Крык, вішч і сьмех. Ен шчэ у вечары жартліва чапіуся да яе. Цяпер у сенцах змацау, але вырвалася. Тады ужо, як дамоу ішла, на вуліцы злавіу і клычыць пачау. Ізноу вырвалася ды уцекаць.

Ен усьлед. Бегла, бегла... пасьля доугай седні разгулялася. Далыш—німа куды уцекаць, а бяжыць ад яго, полы падхапіушы, і сьмяецца. Шугнула, дурнотка, пад суседзкую павець, а гдзе сено. Злавіу там яе і паваліу на сено.

Усе сьмеялася ціхоня, жартувала, адбівалася, а ні ведала таго, што нішчасьце раптам дзеіцца, а злашчы гэткае. Так і выйшло зьнецяйку.

І толькі цяпер ужо, калі чула трэпыханне салодкае і страшнаватае, больна-салодкае, цяпер успамінала, чаго ён нарабіу тады ' ёй. Хвустку падрау, пальцы зламау. Ні агоўталася. Шчупануўся малышка і сам: цалаваць пачау, мілаваць, угаварываць, каб ні плакала.

Да хаты, як бацька родны, праваджау. Прабачэння, дурны, прасіу. А можа прытвараўся?

— «Каб цябе радзімец забіу! Каб ты проклят быу! За дзявочую долю маю, за жарты ніпрыгожыя. Каб-жа і табе боль найвялікшая от за тое, што так больна-прыемна таухаець мне пад грудзьмі і заціхне. Гэта-ж і твае, цябе проклятаго... А усё роуна, цалавала-б цябе, прытуліла б да сябе, каб пачуу, як яно, нашае любоунае, шчупаком стукаіць...»

Ад самаго рання яна ведала, што сяння канец. Ціхая зрабілася, спакойная. Трывала пакорна, дужа пакорна. Ад болі зубы сьцісківала. Дайжа са ўсімі сьмеялася. Выгляд сьмеяуся, а пад ім хавалася душа задумная, ціха-пакорная.

Да калыскі падходзіла, доуга-доуга дзівілася на дзіцёначка нявесткінаго.

— «І што яго матка жалеіць так, кукобіць? Ці забіла б-то яго, каб прымусілі? Ой, не! Які-ж ён маленечкі, слабенькі ды пухлінькі. Капошыцца... Таго, мусі, яно любае, што любоунае і свае саромліва-кроунае. Ягонае. Ад яго. І чуіцца, як было больна-салодка тады. Да сябе прытуліць, і робіцца, як тады...»

Вечар сунууся. Пачало усё горай худа рабіцца. Пазнала, што пачынаіцца. Спужалася. А потым стала спакойна і цьвёрда, як камень.

Вот так-тыкі хіба доля яе—у дзявоцтві маткаю быць.

Цэлае лецячко, як вол, працавала, рабіла усё, цяжкое самае, каб сораму таго мінаваць, дык не. Ні разгібалася, па паусотні снапоу узапор на постаці нажынала—а нічога. Насілу узьнімалася вязьмо круціць, сіняя, бытцым мярцьвец—і ні памагло. Нібы-то ніумысьля пасьлізнулася с палка у лазьні і на памост больна зьвалілася,—ні згубіла палюбоунаго...

Як толькі тады ні папалася: прыкмеціла матка, што на целі у дзячыны палосы сінія. Неяк Бог засьцярог, і нічога матка ні спыталася.

Плакаць пачынала, грашыць Навышняму. Малілас «Памажы, калі грэх мне у тым! Ні папусьці, раз дзя ні дазволено. Ні хацела-ж я. Абмахнулася тады, пя валі. Памажы, каб ніхто ні даведауся. Бо лі пачну. На царкву брэхаць, на абразы, на сь ж бацька абабье до сьмерці, с хаты мяне мяне у сьлязох сваіх утопіць. Браты, грызуць. Людзі засьмяюць мяне, бедн мяне...»

І хаця галавою аб комін на г залезшы, падскаківала ды аб зем хау Бог...

..Прайшло лецячко. Каб г ся,—а Божэ-ж мой, што-б б можэ?.. Хто іх ведае?

І во—канец. Сьціхла,

Змрокам ужо, калі па ха-глуха косьці ламаць, шла, нэрвова дырганула г пасыпала буйнай соляю,

У хаці нікога ні б сагнулася—яе ні бачыл цёмны вечар.

Восень...

Канаплі пабраты напляпішчы чарнеіцц ры цёмныя, сівыя н

джык, ні мокры сьнег з ветрам папясе. Шуміць ігруша на мяжы за гумном. Усе цямнеіць.

Выйшла за стог дзяучына і пастаіла, неслухмянай галавою разважаючы. Хлеба укусіла і задумалася.

Вот зараз і зімухна. Праляцелі журавы і гусі, ні крукаюць, ні крычаць высока у небі. Лісты з грушы сыплюцца. Плачыць надворье пахмурнае. Восень.

— Тоук!

— Ой, о-о-о,—застагнала, нема закохала. Хлеб, солью пасыпаны, з рук пакаціуся. Так больна, нібы нажыкам па жывому мясу рэзнуло. Здавалося, што косьці разломюцца, цело жыуцом с касьцьмі і жыламі разарвецца.

Пеканець разам, як агонь. Войстрым, колкім па целу глыбока пабяжыць, аж мароз па скуры. Як сярпом тупым па пальцу зьнецяйку; абухом ці каменем, ці полкаю глуха, са усей сілы, да крыві, да сіняго ударыць. Больна!..

— О, Мамачка Навышняя,—скрозь сьлезы гарачыя с палягчэннем выстагнула дзяучына і з нудою жудаснаю ад думкі, што яшчэ ламанець. А пабялела уся, як папера, і цьмяная разам стала; як у старой абліччо зморшчылося, валасы на віскох мокрыя прыліпілі.

Паднялa хлеб, ад зямлі абчысьціла, укусіла разок. Пясок захрумсьцеу на зубох. Горкім і сухім хлеб ей быу. А сьпіну ломіць, ломіць і круціць. Ні можна выявіць, што-ж гэта такое і якое яно, і як пачынаіцца, як канчаіцца? Толькі уздыхаіць, каб лягчэй знасіць. Сагнулася, падкасала полы і пайшла за гумно да пуні, дзе салома зложэна пас.ля малацьбы.

— Зь-зь-зьуу,—зьвінелі былінкі. Чорная хмара зрабіла цемянь, як ноч, дождж дробна закурыуся здалёку па зялёнай руні. А ей душна. Німа калі апомніцца, падумаць.— «Тоук, тоук, тоук»,—і бальней ды бальней.

Даваляклася да пуні. Лі сьценкі, дзе дровы і вуллі старыя зложаны, на салому паваліласл, на мягкае: лягчэй, здаецца.—Оо,—уздыхнула каротка.

— А, Божэчка, злітуйся!—імпэтна крыкнула ды зноу застагнала. Вострае прайшло і зноу пачало ныць, ламаць ціха, тупа, безупынна. Падалося, скранулося.

— «Ніхай ідуць, ніхай чуюць»—думала ужо дзеванька пакідала пры сабе спадзеванне натта слабае, што родзіць, пачуюць.

А Матка Божая у дзявоцтві Сына радзіла,—мімавосказала.

тоук, тоук!—хадчэй, буйней, больна, мляўка чніла, як раз, дауно тое было, у маленстві , што дзеуцы лягчэй радзіць, бо Маці цтві. І пачала маліцца ёй:

ы! Ніхай барджэй: ні можна тры-

о, стукало, ныло, хадзіло.

дзяучына. Яснасьць думкі стра-а.

страсе шумаціць.

іліла шубейку. Зьбіла хвустку. ому глыбей, ямачку вылежа- на перад і на сьпіну. Ла- укі ламала. Галаву дало- А баліць і ломіць. Зма-

Пачула, што падбіраіцца інька. кака, абкруцілася. жы. Яшчэ трошку, яш-

І астаноука. Струпехта.

»—падумала тужліва: —«Цётка-ж так памёрла. А што і з ім будзе, нівядомым? Як яно?»

І вот знойдуць пасінелую, адубеушую, у крыві, нічыстую.

— Рату...!!!—нічалавецкім выкам крыкнула і на момэнт памёрла.

І дзіцё скаўзанула на салому, піснуло.

Сабрала сілы, сама перабабіла. Зьдзела кохту і укруціла яго. Потым салому крывяную вынесла на дождж і у гразь утаптала, а тут накідала саломкі сьвежае.

Пастаяла на дварэ у цемні пад даждом і адтуль пайшла пад стрэху на салому, у цёплую, зацішную, мяккую ямачку, што высідзела родзючы.

Села там ужо з ім, сваім дзіцёначкам, села і пачула, што сіл саусім арэшылася.

— «Вот і радзіла... Ведаю. Ніхто ні памог, ні сказау: як трэба што. Царыца Нябесная адна памагла. Лёгка радзіла: другія па дню мучаюцца».

І ёй паманілося уздумаць тыя болі, якія толькі што перамагла. І ні успомніла. Ні можна выявіць боль адбіткам перажылаго, перачулаго.

Са стрэх аднатонна, смутна цурчэло. За сьценамі шугау вечар.

Ісьці трэба.

І ні йшлося. Сядзела-б тут бяз канца. Толькі штосьці халаднавата робіцца.—Ур...—ніумысьля ляпнула зубамі. Палбародак сударжна закалаціуся. Яе пачало трэсьці.

І, трасучыся, вынімала дзіцёначка с палы, клала на салому, каб паглядзець, дзевачка ці хлопчык, ізноу паглядзець. Яно лежала у кохці нірухомае, як здохлы хрушч. І матка трывожна схапілася, ці жывое—то яно?

Разгарнула кохту. Дзіцёначык дрыгнуў ножкамі і ручкамі і піскнуу, як камар, насілу сабраушы духу і жаласна-жаласна.

Зауважыла, што дзевачка. І горка было, што дачушка яе першая ляжыць голая, зморшчаная, толькі што жывая, і ні можна з ею паказацца. Расшпіліла кашулю, грудзі дастала і дала дзіцёначку ссаць. Ён безсільна цмокнуу раз і адваліуся. Прытуліла яго да сябе, пачуушы ад таго цмоктання саладзейшую прыемнасць.

І туліла, прыціскала ішчэ і ішчэ.

Хавала ад самой сябе сорам свой, што туліць яго, каб пачувань у жылых гэтую салодкасьць, мляўкую шчакатлівасьць, так падобную да тэй, што была у калядны вечар на суседскім сені. Калі грэх тады, значэ грэх і цяпер.

Трасло усё дужэй; трываласьць губілася. Трэба рабіць нейкі канец. Позна. Дома ніхто ні ведае, а гдзе яна.

Адняла яго і на салому кінула. У цемні раздзівіць ні магла, якое яно.

Схапіла рукою за галоуку і зжала роцік і носік. Трэпыхнууся дзіцёначык. І пачула, што пад далоняю угінаіцца яго цемячко, мяккое, быццым цело.

— Што робіш?—у сябе спыталася без слоу і раптам рукі адарвала і застыгла у страсі. Толькі сэрцо буйна стукало, і уся яна калацілася.

Дрыжачымі рукамі завінула зноу у кохту. У палу узяла, прытуліла да грудзей. Па усяму целу пабегла прыемнасьць падобная на тую, што бывае акалеламу, дауно німытаму целу ад гарачаго шауковаго веніка на полку у лазні.

Устала і пайшла.

Пайшла па гароду лі ігрушы, што дрыжала лісьцікамі пад дробнымі каплямі дождж. Пайшла па запляценню да вуліцы.

Сьвятло гарэло па хатах, як звычайна. І усім людзям быу вечар звычайны.

Дапялелася да паповага двара. Пад страхою пашла, як злодзей, пад вакно, гдзе фіранкі бяleліся. Ціха. Сабакі ні гаукаюць. Толькі, часінаю, шугае сабе вецяр сьцідзёны.

сьмелыя і ціхія, а пасьля усе мацнейшыя і мацнейшыя. Хацелі нават ісьці да ворагау, каб прынясьці ім у дар сябе і волю сваю. Напалоханыя сьмерцю, яны больш ні баяліся паднявольнага жыцця... Але тут зьявіуся Данко і выбавіу усіх—адзін...

Відаць, што старая часта гаварыла аб палаючым сэрцы Данкі: словы ліліся доугімі, гладкімі стужкамі; яна баяла, як бы сьпеваючы, і голас яе, глухі і скрыпучы, ясна рысавау перада мной шум таго лесу, сярод катораго паміралі ад атручанага паветра балотау нішчасныя загнаныя людзі.

— Данко быу адзін с тых людзей, малады, прыгожы... Прыгожыя зауседы адважныя. І вось ен гаворэ ім, сваім сябром:

«— Ні зьвярнуць каменя с пуціны думкаю. Хто нічога ні робіць, с тым нічога ні зробіцца. Што мы трацім сілы на думку і нуду? Уставайце, пойдзем у лес і пярэйдзем яго наскрозь, бо мае-ж і ен канец, як і усе на сьвеці яго мае! Хадзем, гэй!»

Паглядзелі на яго людзі і убачылі, што ен лепшы ад іх усіх; у вачах яго зьяло гэтулькі моцы і жывога агню.

«—Вядзі ты нас!»—казалі яны.

І ен павеу...

Старая памаучала і глянула у стэп, дзе раз-по-раз гусьцела цьма. Іскры палаючага сэрца Данкі загараліся дзесь далека і здаваліся сінімі кветкамі, разцьвітаушымі на адзін момант.

Павеу іх Данко. Дружна усе пайшлі за ім, бо верылі у яго. Цяжкая гэта была пуціна! Было цемна і на кожным кроку балото разяуляло сваю гнілую ляпу, каб схапіць аднаго с тых людзей, а дрэвы заступалі дарогу магутнаю сьцяной. Перавіліся галіны іх між сабою, як гадзюкі, працягнуліся усюды каранні, і кожны крок шмат каштавау поту і крыві тым людзям. Доуга ішлі яны. Усе больш гусьцеу лес, усе менш было сілы!... І вось, пачалі яны нарэкаць на Данку, што дарэмна ен, малады і ніпрактычны, павеу іх некуды-сь. А ен ішоу упераді і і быу сільны і сьветлы...

Адзін раз разгулялася бура над лесам і зашапталі дрэвы глуха і грымотна. І зрабілося у лесі так цемна, як бы пазьбіраліся у ем адразу усе ночкі, колькі іх было на сьвеці с тае пары, як ен нарадзіуся. Ішлі маленькія людзі паміж вялікіх дрэвау і у грымотным шумі маланак ішлі яны, і, калышучыся, велькалюды-дрэвы скрозь пелі—гудзелі злосныя песьні, а маланкі, летаючы па-над верхамі лесу, асьветлялі яго на хвілю сінім халодным агнем і зьнікалі так-жа хутка, як і зьяуляліся, палохаючы людзей. А дрэвы, асьвечаныя халодным агнем маланак, здаваліся жывымі, працягвалі яны за людзьмі, уходзячымі ад палону цьмы, свае закарэлыя доугія рукі, сплетаючы з іх густую сетку, як-бы жадаючы затрымаць тых людзей.

А з мроку лесу глядзело на ідучых нешта страшнае, цемнае і халоднае. Гэта была трудная пуціна, і людзі змардованыя аслабелі духам. Але яны ні хацелі прызнацца сабе у сваей слабасьці і у гневі і злосьці накінуліся на Данку, чалавека, каторы ішоу упераді іх. І пачалі яны нарэкаць на яго, што ні умеу кіраваць імі—вось як. Затрымаліся яны і пад пабедны шум лесу, сярод дрыжачай цьмы, змардованыя і сярдзітыя, пачалі судзіць Данку.

«— Ты,—казалі яны:—мала варты а шкадлівы чалавек для нас! Ты нас павеу, змардавау, за гэта ты згінеш!»

Маланкі і грымоты падцьвярдзілі іх прыгавор.

«— Вы казалі, вядзі—я і павеу!—крыкнуу Данко, устаючы перад імі.—У мяне есьць адвага вясьці і я павеу вас! А вы? Што вы зрабілі сабе у падмогу? Вы толькі йшлі і ні умелі на'т захаваць адвагі на час даужэйшы!»

Гэтыя словы ішчэ больш раздражнілі іх.

«— Ты згінеш! Згінеш!»—раулі яны. А лес усе гудзеу і гудзеу, злучаючыся з іх крыкамі, і маланкі разрывалі цьму на кускі. Данко глядзеу на тых, дзеля каторых ен працавау і бачыу, што яны—зьвяры. Шмат людзей стаяло укруг яго, але ні было відаць у тварах іх шляхотнасьці і ні можна было яму чакаць зьлітавання ад іх. Тагды у яго сэрцы закіпела злосьць вялікая, але ад жаласьці да людзей яна згасла. Ен кахау тых людзей і ведау, што без яго яны згінуць. У сэрцы яго загарэлося яркім агнем жаданне выбавіць іх і вывясьці на легкую пуціну, і тагды у вачах яго заіскрыліся праменні таго магутнага агню. А яны, бачучы гэта, падумалі, што ад злосьці на іх так ярка разгараліся вочы яго і яны настаражыліся, як ваукі, чакаючы, што ен змагацца будзе з імі і мацней зышліся укруг яго, каб лягчэй было схапіць і забіць Данку. А ен ужо зразумеу іх думку і ярчэй загарэлося сэрцо яго, дзеля таго, што думка гэтая парадзіла у ем тугу вялікую.

А лес усе сьпевау змрочную песьню і гром грымеу і дождж ліу...

«— Што зраблю я для людзей?!»—мацней ад грымоты закрычау Данко.

І разарвау ен рукамі грудзі свае, вырвау з іх сэрцо і падняу яго над галавою.

Яно-ж гарэло так сьветла, як сонцо, ярчэй на'т сонца, і увесь лес замоук, асьвечаны гэтым бляскам вялікаго кахання да людзей; змрок разляцеуся ад сьветла яго і там, глыбока у лесі, упау, дрыжачы, у гнілы зеу балот. Людзі, вельмі зьдзіуленныя, пасталі, як каменныя.

«—Ідзем!»—крыкнуу Данко і нінууся упярод, на свае мейсцо, высока трымаючы палаючае сэрцо і сьветам яго асьвечаючы дарогу людзям.

Людзі кінуліся за ім, цікавыя і заварожаныя. Тагды лес зноу загудзеу, у дзіві вялікім калышучы верхамі, але гоман яго быу заглушаны топатам бягучых людзей. Усе беглі хутка і сьмела, пацягнутыя дзіуным пазорышчам палаючаго сэрца Данкі. І цяпер гінулі, але гінулі без жальбы і сьлез... А Данко усе быу упераді, і сэрцо яго палало і палало.

Раптам лес разступіуся перад імі, разступіуся і застауся з заду нінарушнаю сьцяной, а Данко і усе тыя людзі адразу нырнулі у цэлае моро сонечнаго сьвету і чыстаго паветра, прамытаго дажджом. Бура была там, з заду іх, над лесам, а тут зьяло сонцо, уздыхау стэп, блішчала трава у брылянтах дажджу і золатам адлівала рэчка. Быу вечар і, ад праменню захаду, рэчка здавалася чырвонай, як тая кроу, што біла крыніцай с разарваных грудзей Данкі.

Кінуу пагляд уперад сябе на шыр стэпу горды паміраючы Данко, кінуу ен радасны погляд на вольную зямлю і засьмеяуся горда. А потым упау... і памер.

Ціха шапталі, астаушыся адзадзі, зьдзіуленыя дрэвы, і трава, змочаная кроую Данкі, шаптала разам з імі.

Людзі-ж, радасныя і поуныя надзеі ні зауважылі сьмерці яго і ні бачылі, што ішчэ гарыць побач цела Данкі яго адважнае сэрцо. Толькі адзін чалавек зауважыу гэта і, баючыся чагось, наступіу на гордае сэрцо нагой. І вось яно, распаушыся у іскры, загасло. Вось адкуль гэтыя сінія іскры стэпу, што зьяуляюцца перад бураю.—

Цяпер, калі старая скончыла сваю дзіуную казку, у стэпу зрабілося вельмі ціха, як бы і ен быу зьдзіулены сілай адважнаго Данкі, каторы спаліу для людзей свае сэрцо і памер, ні просючы дзеля сябе у іх нічога.

У стэпу было ціха і цемна. Па небі паузьлі хмары, памалу, нудна. Моро шумело глуха і сумна.

Пераклала І.

# КРОНІКА.

**Беларускі тэатр у Менску.** Беларускі тэатр у Менску раскалоуся на-двое. Істнавaўшая тэатральная дружына пад кіраўніцтвам вядомаго беларускаго артысты Ф. Ждановіча, з волі старога Народнаго Сэкрэтарыяту, адтрымала была назву «Беларускаго Дзяржаўнаго Тэатру (!?)» Была утворана дырэкцыя гэтаго тэатру, каторая мела адтрымовываць па 4000 рб. кожны месяц на выплату пэнсіі артыстам.

Новы Народны Сэкрэтарыят адмовіўся даваць субсыдыю гэтаму тэатру, але забыўся, мабыць, скасаваць самую назву «Дзяржаўны Тэатр», што дало магчымасьць частцы артыстаў выкарыстаць гэтае найменне дзеля сваіх асабістых мэтаў. Прыхільнікі старога кіраўніка Ф. Ждановіча аддзяліліся і утварылі асобную труппу, утрымаўшы за сабою назву «Беларускаго Дзяржаўнаго Тэатру». Рэшта артыстаў засталася пад кіраўніцтвам вядомаго беларускаго пісьменніка і драматурга Ф. Алехновіча і працуе пад найменнем «Беларускаго Нацыянальнаго Тэатру». Ведаючы ідэёвасьць і шчырае закаханне пана Ф. Алехновіча да бела-

рускае справы наогул і да разьвіцця беларускага тэатру на асобку, мы жадаем яго дружыні заўсюды цешыцца прыхільнасьцю і гарачым спачуцьцем у публікі.

Цяпер дружына п. Ф. Ждановіча разьвешвае афішкі па горадзі, што яны даюць прашчальныя спэктаклі, бо хутка маюць пакінуць Менск і думаюць выехаць з Менску на «Беларусь»?! Цікава запытаць у пана Ждановіча: хіба Менск — сэрцо Беларусі — ні на Беларусі?

**Беларуская музыкальна-драматычная дружына у Вільні.** С прычыны выезду кіраўніка дружыны, Ф. Алехновіча, да Менску, дзе ён цяпер адтрымаў пасаду кіраўніка Беларускага Нацыянальнаго Тэатру, — Віленская музыкальна-драматычная дружына выбрала за свайго старшыню п. А. Бароўскаго, за таварышку старшыні—п. Б. Стэпанавічанку. Справа рэжысуры будзе разьвязана, як нас паведамляюць, у бліжэйшых днёх.

Апрач таго, ухвалено зьвярнуць больш увагі на музыкальную работу, за кіраўніка каторай выбран вядомы у Вільні сьпевака п. Вадзінскі.

**Настаўніцкія курсы у Сьвіслачы.** У Беларускай Настаўніцкай Сэмінарыі у Сьвіслачы пяты элемэнтарны курс пачынаецца 15-го жніўня і будзе трываць 6-ць месяцаў.

**Палякі аб нашым краю.** Кракоўскі «Час» у № 272 з 26-е чэрвеня паміж іншым пішэ:

«За межамі конгрэсавай Польшчы пануе сыстэма змагання с польскім элемэнтам з дапамогаю розных плямён, праз штучную агітацыю выклікаючых да палітычнаго жыцця. Літвіноў, беларусаў і украінцаў ужываюць дзеля гэтаго с тэй думкай, каб перашкодзіць палякам разьвіваць сваю моц, і ствaрыць для будучыні выгодны спосаб для пашырэння нізадавальнення у межах будучай Польскай дзяржавы. Напрыклад, цяпер окупацыйныя уласьці з усёй сілай працуюць дзеля таго, каб прыдаць Вільні літоўскі характар, і з гэтай мэтай маняцца зрабіць там вялізарную урачыстасьць с прычыны абвешчэння нізалежнасьці Літвы. Аднак, ніякі загад Об Ост'а і ніякія найсьмялейшыя заявы літвіноў, хворых на манію велічы, ні зьнішчаць польскаго характару Вільні і ні здолеюць прымусіць ее жыхароў пакінуць надзею на новае злучанне с Польшчай».

Вось гэтак трактуюць аб нас і аб нашым краю палякі... Гэта трэба памятаць нам, беларусам, каб ні спаткацца з ніспадзеванкай.

**Эканамічны цэнтр Беларусі.** У Магілёві адбыўся зьезд прэдстаўнікоў ад земстваў і каопэратываў Магілёва, Менска, Рагачова і інш.. На зьездзе, галоўным чынам, разважалося пытанне аб утварэнні ядынаго гандлёва-эканамічнаго цэнтру Беларусі. Пастаноўлено, што у склад гэтай арганізацыі павінны уваходзіць прэдстаўнікі розных станаў населення — ад біржаў, земстваў, гарадоў, профэсійных хаўрусаў і т. д.. Ухвалено утварыць раду, каторая павінна заняцца гэтаю справай. Пакі што, да утварэння рады, выбрано часовае бюро, у склад каторага ад Меншчыны увайшлі: п. Турганові і загадчык харчоваго аддзелу Менск. Земскай Управы І. Тэумін.

**Мінская гімназія, заложаная т-вом почт. тэлегр. служачых** для хлапцоў і дзеўчат, адчыненая летась, ўзнавіла прыняцце просьбаў і дакумэнтаў дзеля паступлення у памянёную гімназію.

Экзаміны для паступлення у гімназію працягнуцца с 1 жніўня да 1 верасьня.

Плата за навуку 100 рб. за вуч. год.

Пры гімназіі маюцца вучыцельскія курсы, на якія прыймаецца запіс на чарговы курс. Летні курс скончыцца 1-го верасьня г.г. і нібаўна пачнецца новы (васенні) курс.

---

# Аб літоўскай справе.

«Nordd. Allg. Ztg.», орган нямецкаго канцлера, пішэ у нядзеляшнім нумары з 21 ліпня:

«Нідаўна выявілося, што адно літоўскае сабранне (Körperschaft) выбрало гэрцога Ураха за караля Літвы. Як мы даведаліся, справа стаіць гэтак.

«Часьць Літоўскай Краёвай Рады без згоды Нямеччыны, па прыкладу польскай дзяржаўнай рады, арганізавалася у Літоўскую Дзяржаўную Раду і выбрала посьля без ведама нямецкаго ураду гэрцога Ураха за караля Літвы. Нізалежнасьць Літвы у свaім часе *была прызнана Нямеччынай толькі з умовай, што маючая быць падпісанай канвэнцыя, да якой, ведама, належыць і справа аб дзяржаўнай форме і аб заняцці пасаду, будзе згодна з інтарэсамі Нямеччыны.* З гэтаго вынікае, што усе справы могуць быць правамочна разьвязаны толькі у цеснай еднасьці за нямецкім урадам. Гэтак з Літвой ні можа быць прызнано права прыняць свaім адумам пастанову у справе пасаду,—*тым болей, што у самавольна утворанай дзяржаўнай радзе нельга бачыць законнаго прэдстаўніцтва Літвы.* Вестка, быццам гэрцог Урах прыняў карону, гэтак сама нізгодна с праўдай. Наадварот, самавольная пастанова і прапазыцыя яго, трэба думаць, непрыемна зьдзівілі яго. У пытанні аб літоўска-саксонскай пэрсональнай вуніі, каторая ізноў разглядаецца прэсай, ніякай пастановы дагэтуль так само ні было».



# Засеўкі.

Ні шырокі шнур ды доўгі,—
Канца ні відаць.
На шнурочку у радочкі
Бoразны ляжаць.
Гаспадар с каробкай зернят
На раллі стаіць,
У глыбокім задуменні
Па шнурох глядзіць.
Разаслалось прэд ім поле,—
Чакае сяўца,
А шнурочкі у радочкі,—
Ні відаць канца!
Шапку скінуў, просіць Бога
Збожжо зарадзіць,
Каб сямейку дарагеньку
Было чым карміць;
Каб ні йці у заработкі,—
Дарма працаваць,
У чужой, цяжкой рабоці
Сілы загубляць.
«Радзі, Божэ, Твае збожжо
На маей зямлі!
Мне самому і сямейцы
Здароўе пашлі!»
Загарэлаю рукою
Шчыра твар жэгнае
І с сявенькі на зямельку
Зерняты кідае.

**Антось Галіна.**

---

**Рэдактар Я. Лёсік.**

---

# Новыя кніжкі.

1) **Літэратурны Зборнік,** сшт. I . 90 к.
2) **Сцэнічныя творы** Тараса Гушчы 50 „
3) **Дзіцячая Чытанка** . . 50 „
4) **Матчын Дар,** зборн. верш А. Гарува . 2 рб.
5) **Бярозка,** апаведанні Ядвігіна Ш. 75 „
6) **Сымон Музыка,** поэма Якуба Коласа 1 р. 50 „
7) **Тарас на Парнасе** . . 30 „
8) **Зборнік сцэн. твораў** розн. аўт. друкуецца
9) **Першыя малітвы** . . . 30 к.

**Менск. Беларуская Кнігарня, Захар. 18.**

Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры» — Друкарня Я. А. Грынблята